АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА

# УРАДЖАЙ ЦЯПЛА

Новыя вершы

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1978

# ТАБЕ РОЎНАЙ НЯМА

*Дзе знайсці чарадзейныя словы,*
*Ці падслухаць у ніў ці ў дубровы,*
*Каб падзяку з іх шчырую скласці*
*Роднай партыі — маці любімай —*
*За вялікую долю і шчасце.*

*Дзе знайсці незвычайныя словы,*
*Каб яны сталі слаўнай асновай*
*Для сардэчнай і радаснай песні*
*Аб табе, наша партыя-маці,*
*Яснай праўды і шчасця прадвеснік.*

*Ад тваёй цеплыні і ад ласкі*
*Сталі явай легенды і казкі,*
*Ад тваёй мудрай волі і сілы,*
*Наша добрая партыя-маці,*
*За плячыма ў нас выраслі крылы.*

*Табе роўнай няма ў цэлым свеце,*
*Ты, як сонца, і грэеш, і свеціш,*
*І наперад вядзеш у паходы*
*Да вялікай зары чалавецтва*
*За сабою рэспублік народы.*

*Ты і сіла, і мужнасць народа,*
*Ты адвага яго і свабода,*
*І сумленне, і гонар дзяржавы.*
*Дык няхай жыве партыя-маці,*
*Ей і нашая песня і слава!*

## *ШЛЯХАМ ШЧАСЦЯ*

*Нібы сонца, агністыя словы*
*У табе, наш вялікі Закон.*
*Палымяны ты сцяг і аснова*
*Для наступных, для радасных дзён.*

*Свае мары і мэты мы здзейснім,*
*Што нас вабілі к шчасцю здавён.*
*Праз гады пранясём мы, як песню,*
*Свой нязгасны Асноўны Закон.*

*Шляхам шчасця, дарогаю славы*
*Нам наперад нязломна ісці.*
*Узаконена нашае права*
*На красу чалавека ў жыцці.*

*Перад намі — Сусвету бязмежжа,*
*Здабылі мы для шчасця ключы.*
*Прысягаю Крамлёўскім я вежам*
*Ўсенародны закон берагчы.*

*Канстытуцыі сонечнай варты*
*І краіна мая, і народ.*
*Славім мудрую нашую партыю,*
*К камунізму народны паход.*

*Гартавалі на сталі, жалезе*
*Мы свой дух, свой настрой малады.*
*З намі Ленін у першай шарэнзе,*
*З намі Ленін у сэрцы заўжды.*

* * *

*Я вандраваў па днях свайго жыцця,*
*Калі хвароба к ложку прыкавала.*
*Багаты змераў за гады прасцяг,*
*Што ж для ўспамінаў*
*Памяць прыхавала?*

*Схіляю перад імі галаву,*
*Падзеі даўнія ў душы шукаю.*
*Хаця не імі я цяпер жыву.*
*У днях у тых,*
*Нібы ў бары, блукаю.*

*Спыняюся,*
*У забыцці стаю*
*На нейкім невядомым скрыжаванні,*
*Сваіх юначых год не пазнаю,*
*Гляджу на іх з сардэчным хваляваннем.*

*Яны мяне забралі ў свой палон,*
*Шумліваю гурбою абступілі.*
*І коціць рэха*
*Той далёкі звон*
*У даль нязнаную па небасхіле.*

*І зноў вясна.*
*І зноў цвітуць сады,*
*І я ў гадах няздольны разабрацца.*
*Мне час пражыты здаўся днём адным,*
*Па чым жа мне тужыць, з чаго смяяцца?*

*Я вандраваў па днях свайго жыцця,*
*Як быццам сам у нечым вінаваты.*
*Зірнеш — і ладны змераны працяг,*
*А колькі спраў на свеце непачатых?*

* * *

*Не ведаю, чаму да бэзу*
*Пагляд пахмуры твой прырос.*
*А думаў я, што ты з жалеза,*
*Без захаплення і без слёз.*

*Сустрэч у нас было нямала,*
*Павінен быў цябе я знаць,*
*А ты умела так хавала,*
*Што выгадна было хаваць.*

*Як мары ні хавай глыбока,*
*Як ні закоўвай у браню,*
*Не ўтоіш ад чужога вока*
*Кахання, песні і агню.*

*Гарэць агнём халодным бэзу,*
*Пачуццям жыць і трапятаць,*
*Ад сонца плавіцца жалезу,*
*Вачам смяяцца і рыдаць.*

*Здымай з сябе чужую маску*
*І дзён пражытых не шкадуй,*
*Заходзь у сэрца, калі ласка,*
*І па-святочнаму пануй.*

* * *

*Люблю я музыку тваіх вачэй,*
*Мне з імі, быццам з песняю вясенняй,*
*Ісці па кручах будзе шмат лягчэй*
*Насустрач зорным казачным праменням.*

*Звіні, палай, сімфонія душы,*
*Спявайце, вочы, свой матыў нязнаны.*
*Прашу, халодны вецер, не тушы*
*Агонь кахання мой неспадзяваны.*

*Няхай жыве акорд тваіх вачэй,*
*На іх усё жыццё мне не забыцца.*
*Збяру з ваколля цішыню начэй*
*І гімн складу я лёну і пшаніцы.*

*І я пайду па свеце вандраваць,*
*Мелодыяй тваіх вачэй сагрэты,*
*Каб для людскога шчасця адшукаць*
*Дары адменныя вясны і лета.*

* * *

*Надышла пара, крыху старэю.*
*Кажуць, што я грэшны сын сахі.*
*У грахах я мала разумею.*
*Ды к таму ж не веру я ў грахі.*

*Гэта праўда: я араў і сеяў,*
*Каля Нёмана спяліў лугі,*
*Жыта ўвосень арфаваў і веяў,*
*Як ракеты, узвышаў стагі.*

*На начлег каня вадзіў сівога,*
*Пасвіў і авечак, і кароў.*
*Я з дзіцячых год баяўся бога,*
*На балоце — чорта і ваўкоў.*

*Я ад гора бараніўся смехам,*
*Жыў за працай і на працы рос.*
*Можа, дзе ўзараў загон з агрэхам*
*Ці пакінуў грыўку ў сенакос.*

*Можа, верш які не так удаўся,*
*Да пасады значнай не дарос,*
*Там, дзе трэба плакаць, усміхаўся*
*І сцярогся, нібы здрады, слёз.*

*Можа, з некім дзе не павітаўся,*
*Можа, недзе некаму салгаў*
*Ці неспадзявана абазнаўся,*
*Не таму калісь «дзень добры» даў.*

*Хто ж у кніжыцу грахоў запіша,*
*Дзе, калі і ў чым я вінават!*
*Палкаводзец слоў з мяне не выйшаў,*
*Радавога верша я салдат.*

* * *

*Гаворань: старасць —*
*Мудрая пара,*
*У ёй развагі шмат і асцярогі.*
*Спакойная вячэрняя зара*
*Прыцішвае надзеі і трывогі.*

*Што ў сталасці не той ужо імпэт,*
*Што трэба абмінаць равы і ўзгоркі.*
*Глядзець паважна*
*На ўвесь белы свет,*
*Недасягальнай не дзівіцца зоркай.*

*Не так пакутаваць і не так гарэць,*
*Каб не здзяцініцца ў старых гарэзах,*
*Надзеямі і жыць*
*І сонцам грэць*
*І са сваёй званіцы праўду рэзаць.*

*Я больш люблю вясеннія віры,*
*Чым восені даспелай раўнавагу,*
*Калі шалеюць з радасці бары,*
*Калі зямля ўся*
*Пад юначым сцягам.*

*Хаця цяпер прыцішваю хаду,*
*Ды адцвілі ў душы*
*Не ўсе жаданні.*
*З вянком надзей наперад я іду*
*Са старасцю сваёю на спатканне.*

*Калі вятры сарвуць з нябёс зару,*
*Прыйду да мудрай старасці я ў госці*
*На самую высокую гару*
*І зблытаю я*
*Старасць з маладосцю.*

# СЛОВАМ ПРАМЯНЕЦЬ

*Усё мінае. Смутак, гора*
*Магчыма воляй адалець.*
*Гарадь да рання, тухнуць зоры,*
*Вось толькі словам прамянець.*

*Народы нарадзілі мову,*
*Адшліфавалі, як крышталь.*
*Яна — ў жыцці людзей аснова.*
*Яна — і золата, і сталь.*

*Яна і цешыць, і карае,*
*Гамонку з космасам вядзе,*
*У дружны калектыў яднае*
*І творыць радасць для людзей.*

*І ў буднія часы і ў святы*
*Мы песняй з самых лепшых слоў*
*Свой праслаўляем век дваццаты,*
*Жыццю выказваем любоў.*

*Сваім напеўным шчырым словам*
*Заўжды умеем даражыць.*
*Пад сцягам Леніна барвовым*
*Нам працаваць і ў шчасці жыць.*

* * *

*Гады ляцяць. А дні праходзяць*
*Зусім няспешнай чарадой.*
*І ты жывеш не ў гэтым годзе,*
*А новай цешышся зарой.*

*І гэтак хутка час мінае,*
*Кудысь сплывае ў далягляд,*
*Што нават хвілі не хапае,*
*Каб мне агледзецца назад.*

*І ад таго і добра, можа,*
*Што ўраўнаважан ты заўжды,*
*Што потым толькі ўжо трывожаць*
*Душу пражытыя гады.*

*Глядзіш і бачыш каля хаты —*
*Не саджанцы і не кусты.*
*Сігнулі дрэвы ў рост цыбаты*
*Пад зелянінай з лістаты.*

*І кожны раз неспадзявана*
*І днём і ў засені начэй*
*Стаіш, жыццём зачараваны,*
*Не зводзіш з хараства вачэй.*

*Калі табою дзень пражыты*
*Па абавязку дабраты,*
*Не будзеш на сябе сярдзіты,*
*Тым днём здаволен будзеш ты.*



*Дайно закон сяброўства зведаў*
*На радасці і на журбе.*
*Спачатку памажы суседу,*
*Пасля ўжо думай пра сябе.*

* * *

*Ты, сонца, смутак завяжы*
*У рушнічок свой каляровы,*
*Хачу смяяцца і тужыць,*
*Блукаць па пушчах і дубровах.*

*Хадзіць ля рэчак і азёр,*
*Шаптацца з жытам і пшаніцай,*
*Дзівіцца ззянню дальніх зор*
*І мудрасці ў зямлі вучыцца.*

* * *

*А дні бывалі часта цеснымі*
*Ад будніх клопатаў і спраў.*
*Здаралася: парою весняю*
*Мяне і смутак агартаў.*

*Ад мэты мары аддаляліся,*
*І шлях аблытвала туга.*
*І толькі туманы гушкаліся*
*На летам скошаных лугах.*

*А потым хмары расступаліся,*
*Знікалі змрок і туманы,*
*І мары з далечы ўсміхаліся*
*З прыходам сонца і вясны.*

*Я цешыўся жытнёвым коласам,*
*Табою летняй, сенажаць.*
*У салаўя вучыўся голасу*
*І радасць песні памнажаць.*

*Хоць дні бывалі часта цеснымі,*
*Хапала клопату і спраў...*
*Не ўсе свае дарогі веснія*
*Пад старасць я пазабываў.*

* * *

*А мне здалося, што усё мінула,*
*Забылася, бур'янам зарасло,*
*А тут у сэрца раніца дыхнула,*
*І ўсё былое раптам ажыло.*

*І ўсе твае трывогі і няўдачы*
*Цяпер душу не гэтак закрануць,*
*Па-іншаму гатоў ты іх адзначыць,*
*У іншае адзенне апрануць.*

*І будзеш то дзівіцца, то смяяцца,*
*То наракаць часамі на сябе,*
*Што ты не змог, як трэба, разабрацца*
*У нечым добрым ці ў пустой жальбе.*

*Ці трэба наракаць? Відаць, не варта,*
*Мінуламу не стаўлю я адзнак.*
*Каму з нас выпала якая карта,*
*Цяпер ужо не зменіш аніяк.*

*Таму не буду варушыць вуголле,*
*Душу траполваць ад падзей былых,*
*Старыя раны кратаць новым болем,*
*Калі ў гадах пражытых ён прыціх.*

* * *

*А мне ўсё часу не хапала,*
*Як сена для таго каня.*
*Душа садзіла, сэрца жала,*
*А мне было ўсё мала дня.*

*Хоць накасіў я шмат пракосаў,*
*Але не ўсе у копы згроб.*
*...Забыў хадзіць па травах босым,*
*Не ружы нюхаю, а кроп.*

*Ды што было, таго не будзе,*
*Складаць не мне цяпер стагі.*
*Над рэчкамі ў маторным гудзе*
*Унукі росцяць мурагі.*

*На іх уся мая надзея,*
*Што я не змог — ім даваршыць,*
*Каб справы нашы, нашы дзеі*
*Змаглі ў наступным жыць і жыць.*

*Яшчэ ў душы жаданняў многа,*
*І на планеце я не госць,*
*За родным бацькавым парогам,*
*Шляхі ў жыццё, па маладосць.*

*Свой час цяпер не разбазару,*
*Яго пад старасць я прыпас.*
*Радкамі разганю я хмары,*
*Што засцілі той даўні час.*

* * *

*Каб я сябе пашкадаваў,*
*Пазбавіў некага увагі,*
*Куды б тады я падзяваў*
*Жыццёвую няўмольнасць прагі?*

*Ступаць яшчэ, хадзіць яшчэ,*
*Вясны юначай дачакацца,*
*Пакуль у жылах кроў цячэ*
*І здольна сонца красавацца.*

*І ні навошта не зважаць,*
*Цярпець смугу для дзён вясенніх,*
*Каб і пасеяць і пажаць,*
*Свае падзейсніць летуценні.*

*Нязбыйных не трывожу мар*
*І панікі ў душы не грэю.*
*Я не тушу стары пажар,*
*Які ўжо не гарыць, а тлее.*

*Мне зоры промні шлюць здаля.*
*Ляжыць прад мною шлях пражыты.*
*Няхай ляціць, ляціць зямля*
*Сваёю мірнаю арбітай.*

*Няма чаго мне шкадаваць.*
*Час прамінуў, і песні спеты.*
*Не буду мары пазычаць*
*У жоўтай восені для лета.*

* * *

Усё змяняецца на свеце,
Дзе быў хмызняк, там лес парос.
І я нядаўна жыў у леце,
Ды ў восень перакінуў лёс.

Зара вячэрняя патухла,
Паблекла неба сінізна,
Лісцё на дрэвах трохі зжухла,
І пачарнела цаліна.

Прыціх у лесе птушак гоман.
Збірае вецер статкі хмар,
І лішкі хваль злівае Нёман
На свой прырэчанскі абшар.

Б'е рэзка ў вочы клін азімы
Нязвыклай зеленню сваёй.
Схавалася ў туманным дыме
І сонца за лясной сцяной.

Грыбамі пахне і цыбуляй
У вёсцы вуліца і лес.
Вятры паўночныя падзьмулі,
І холад пад страху палез.

Як пойдзе баль спраўляць завея,
Уздыме ледзяны свой звон,
Дык снегу сыпкага навее
Да самых стрэх і да акон.



*Зноў будуць і вясна і лета,*
*Іх зменяць восень і зіма.*
*Майго ж юнацтва песня спета,*
*Звароту ў маладосць няма.*

*Ну што ж. Я мары і надзеі*
*У кайстру сталасці згружу.*
*Зямля вясною маладзее,*
*Яе красой я даражу.*

## *СУМ ПА СЯБРАХ*

*Прыгадваю часы былыя,*
*Асенні збродлівы туман,*
*Шляхі нябачныя лясныя*
*І партызанскі свой будан.*

*Хадзіць не трэба мне далёка*
*У тыя грозныя гады.*
*Цяпер вылазяць часта бокам*
*І буданы, і халады.*

*Тады жылі адной мы верай:*
*Разбіць фашызм. Перамагчы!*
*Што нас ніякая халера*
*Ні днём не возьме, ні ўначы.*

*Але штогод наш круг вузее,*
*Больш развітанняў, чым сустрэч,*
*Старэем, пакрысе старэем,*
*А смерці не ржавее меч.*

*Зрабіць нічога мы не здольны,*
*Не ўмеем жыць, каб не старэць.*
*Закон зямны для ўсіх няўмольны,*
*Дзе ёсць жыццё, дык там і смерць.*

*Не стрэну больш ужо ніколі*
*Я многіх баявых сяброў,*
*З якімі за жыццё, за долю*
*Сваю не шкадавалі кроў.*

* * *

*Пахаваў я нямала надзей,*
*І, на жаль, многа мар не збылося.*
*Дзе ж было іх, вясенніх, падзець*
*У маю непагодную восень.*

*Аблажылі дажджы не на дзень*
*Сваёй музыкай сумнаю сэрца.*
*Спадзяваўся, што сонца прамень*
*Цераз хмары сівыя праб'ецца.*

*Ды зацята дажджы ўсё ішлі.*
*Стала неба дзіравым, як сіта.*
*У салдацкім маім шынялі*
*Стала дзірак багата прабітых.*

*Я не думаў сябе берагчы,*
*Хоць шынель свой надзеямі латаў,*
*З мар раскладваў агонь уначы,*
*Быў мне лес палавінаю хаты.*

*Але мары разбегліся ўсе,*
*Быццам конікі пырснулі ў травы.*
*Спрабаваў іх сабраць пакрысе,*
*Ды было гэта марнаю справай.*

*Я не буду па іх сумаваць,*
*Хоць душы маёй трохі балесна,*
*А пайду па зямлі вандраваць,*
*Пашукаю для восені песні.*

*Пахаваў я нямала надзей,*
*І, на жаль, многа мар не збылося.*
*Не было мне куды іх падзець*
*У маю непагодную восень.*

## ПАСЛЯ БЛАКАДЫ

Гнілой вады да барады.
Куп'ё. І чортавыя вокны.
Калі мы трапілі сюды
Пад тумановыя палотны.

Шыпенне мін. Агню слупы.
Плюецца твань балотнай жыжай.
Хоць шлях у цемень і сляпы,
Патрэбна жыць. Патрэбна выжыць.

Пад ранак вылезлі з дрыгвы
На астравок сухі ў зацішша.
А кожны ледзьве з нас жывы,
Як мех кавальскі кожны дыша.

Мы леглі пластам спакваля
Пасля баёў, блакадных страхаў.
Якая ж лёгкая зямля
Уся з зялёных траў і пахаў!

Паміж зрыжэлай асакі
І зараслі балотнай ваты,
На куп'і вабяць буякі
Сухія рты лясных салдатаў.

Не хутка смагу нам сагнаць,
Без ягад на душы аскома,
Калі ні ног, ні рук не ўзняць
Ад цяжкай і здранцвелай стомы.

*Гляджу на даўнія часы*
*То з радасцю, а то з трывогай,*
*Тады ж балоты і лясы*
*Кавалі з намі Перамогу.*

* * *

*Я быў заняты справамі жыцця,*
*Таму і да хадзьбы не прыглядаўся.*
*Ішоў спакойна ўдалеч, у прасцяг*
*І толькі час ад часу прыпыняўся.*

*Не выдумляў, а жыў, як людзі ўсе.*
*Не пазычаў людзьмі сыграных роляў.*
*Не думаў папярэдне аб красе,*
*Аб нейкай лепшай, прыгажэйшай долі.*

*З малых гадоў я справу з пугай меў,*
*З вясны да восені — пастух вясковы.*
*Зімой за школьнай партаю пацеў,*
*Каб кніжнай мудрасці спазнаць асновы.*

*Калі больш цвёрда ўжо на ногі стаў,*
*Вучыўся сельскую не ганьбіць марку:*
*І малаціў, і сеяў, і араў,*
*З няхітраю спраўляўся гаспадаркай.*

*Наперад я нідзе не вытыркаў*
*Хрышчоную зямлёй сваю асобу,*
*На ўласную ўсё сілу налягаў,*
*На сілу, што была юначай пробы.*

*Але прайшлі, пракрочылі гады.*
*Я не збіраюся судзіць іх строга.*
*Дзе ссечаны, а дзе шумяць сады,*
*А дзе пуцін няходжаных замнога.*

*І трэба жыць з людзьмі! І не тужыць,*
*Хаця нялёгка ўсе надзеі здзейсніць.*
*Жыццё ідзе. І хутка час бяжыць,*
*Бязбожна ён старыя мары крэсліць.*

* * *

*Я хацеў бы так пражыць,*
*Каб душою не астынуць,*
*Не ў жыцця забраць усё,*
*А сваё жыццю пакінуць.*

*Што ж пакінуў, што збярог*
*Я для дзён сваіх асенніх?*
*Той жа за ракой мурог,*
*Жоўты клён на прыгуменні.*

*А ці жыў я, ці не жыў?*
*Трэба, мабыць, аглядзецца,*
*На якой цяпер мяжы*
*Маладосць мая пасецца.*

*Праімчаліся гады,*
*Як шалёныя, прабеглі*
*Праз палеткі, праз сады,*
*Праз палацы з белай цэглы.*

*Дзе ж пражытае знайсці?*
*Не шукаць жа ветру ў полі.*
*Пераплецены ў жыцці*
*І мой шлях і мая доля.*

*Што ж табе я даў, зямля?*
*Што сваё пакіну людзям?*
*Гэта некалі, пасля,*
*Зразумела ўнукам будзе.*

* * *

*Стаю адзін на Лысай я гары,*
*Спаласаванай месяцам і змрокам.*
*Відны здалёк Заслаўскія муры,*
*Акружаныя хвойнікам высокім.*

*Адсюль брыдуць хмызы да Налібок,*
*У пушчу сходзяцца, нібы на веча,*
*Адсвяткаваць зубрыны рык і крок,*
*Што панавалі ў зараслях спрадвечна.*

*Яшчэ да раніцы не блізкі час.*
*Душу палоняць даўнія ўспаміны.*
*Яшчэ агонь кастроў іх не пагас,*
*Ен след на ўсё жыццё ўва мне пакінуў.*

*Стралялі ў неба смольныя карчы,*
*Каб туманы сагнаць з гары ў балота.*
*Палалі часта вогнішчы ўначы,*
*Сігналамі служылі самалётам.*

*Чакалі іх з маскоўскіх мы нябёс*
*Са скрынкамі і куль, і аўтаматаў,*
*Каб ад фашыстаў бараніць свой лёс*
*І множыць армію лясных салдатаў.*

*Пасеклі ворагі стары сасняк,*
*Ператварылі лес у мёртвы прысак...*
*Ізноў шуміць, гамоніць тут хмызняк,*
*А ўсё гару мы называем Лысай.*

*Лясны мы ашчаджаем свой куток,*
*Ён помнік сэрцу дарагі і блізкі.*
*Ён мост пераходны да Налібок,*
*Дыван зялёны на парозе Мінска.*

* * *

*Не бывае для думак мяжы,*
*Чалавек з імі вечна ў дарозе,*
*Па далёкім ён шчасцю тужыць*
*Будзе нават у горы і знмозе.*

*Залаты той праменьчык свяціць*
*Будзе нам аж да самага скону,*
*Не баяцца нічога, а жыць —*
*Неадольная сіла закону.*

*Ды не проста пры тым існаваць,*
*Жыць па-людску, прыгожа і смела,*
*Так на свеце жыццё будаваць,*
*Каб зямля красавала і пела.*

*Нам пакінут такі запавет*
*З даўніх дзён*
*Для здзяйснення на справе,*
*Каб праклалі мы ў Заўтрае след,*
*Узаконены працай і славай.*

*Грозны, мудры Семнаццаты год*
*На вякі нашы мэты акрэсліў.*
*Мы ў паходзе. Вядзём свой паход*
*У легенды, у казкі, у песні.*

*Нашы дружныя крокі чуваць,*
*Рэхам коцяцца па планеце.*
*А над намі сцягі шалясцяць,*

*Шалясцяць,*
*Сонцам Ленінскім свецяць.*

*І няма нашым мэтам мяжы,*
*Чалавек з імі вечна ў дарозе.*
*Нам нязнаныя браць рубяжы,*
*Мужны шлях пракладаць к Перамозе.*

* * *

А мне, на жаль, за шэсцьдзесят,
Хаджу ўжо болей асцярожна.
Хаця й румяніцца закат,
З усходам параўнаць не можна.

Паўвека будаваў свой свет,
Для спраў не ведаў асцярогі.
...Сяджу на прызбе, сівы дзед,
Каля бацькоўскага парога.

І нейкі хісткі змрок тугі
Плыве пад месяцам рагатым.
Ля Нёмна шэрыя стагі
Салодкай цішынёй абняты.

Не чутны птушак галасы,
Адна адной міргаюць зоры.
Тчэ месяц з зорак паясы
І іх вывешвае над борам.

Гатовы прасядзець да дня
Я ў тумановым ціхім дыме,
Пакуль ізноў не зазвіняць
Бярозы лісцямі сваімі.

За хараство пражытых дзён,
За тое, як цяпер жывецца,
Табе, зямля мая, паклон,
Падзяка ад душы і сэрца.

* * *

*Жыццёвай радасцю багаты,*
*Адчуўшы волю ўпершыню,*
*Ішоў па свеце я стракатым*
*Насустрач сонечнаму дню.*

*Збіраў нястомна ўзоры шчасця,*
*Хацеў па іх не для забаў*
*Вялікай прагаю дапасці*
*Да сэнсу, да жыццёвых спраў.*

*Мяне займалі, хвалявалі,*
*Ажно з юначых дзён гнялі,*
*Занатаваныя ў скрыжалях,*
*Пакуты люду на зямлі.*

*Яго няўрымслівасць, шуканні*
*Спрадвечнай долі і красы,*
*З нядобрым лютае змаганне,*
*Надзей высокіх галасы.*

*І ў пошуках надзей нязгасных*
*Пачуццям часта давяраў,*
*А спрэчным мэтам і няясным*
*Я наваселля не спраўляў.*

*Праз боль пакут і ўсе трывогі,*
*Праз пекла, праз агонь баёў*
*Да запаветнай перамогі*
*Радзіму нашу Ленін вёў.*

*Прайшлі мы ўсе выпрабаванні,*
*Народ абараніў свой лёс.*
*Свабоду, шчасця панаванне*
*Кастрычнік на зямлю прынёс.*

* * *

*Не хацелася сысці*
*Мне з вясёлай сцежкі,*
*А хацелася зайсці*
*У тваю усмешку.*

*Мне здавалася яна*
*Гэтакай чароўнай,*
*Што ажно сама вясна*
*Не была ёй роўнай.*

*Што там сіні васілёк,*
*Што там нават ружа,*
*Калі ўсмешкі аганёк*
*Быў пякучы дужа.*

*Абпаліў ён мне душу,*
*Растрывожыў сэрца.*
*І сягоння я тушу*
*Тую горыч перцу.*

*Я не трапіў у твой сад,*
*Не злавіў усмешку,*
*І аглоблі я назад*
*Павярнуў са сцежкі.*

*Хоць я сэрцам не крывіў,*
*Прамаргаў каханне.*
*Смейся, радуйся, жыві*
*У сваё жаданне.*

* * *

*Вялікай меркай дабраты*
*Мы вымяраем не заўсёды*
*Свае працоўныя франты,*
*Свае жыццёвыя паходы.*

*Хацеў бы я, каб на зямлі*
*Было па-чалавечы ціха,*
*Каб шчасце з радасцю жылі*
*І непрабудна спала ліха.*

*А ўсё да гэтага ідзе,*
*Яно на свеце гэтак будзе,*
*Калі спрадвечнай злыбядзе*
*Учыняць бой сапраўдны людзі.*

*Здараецца ж, што нас яшчэ*
*Цікуюць спадцішка заганы,*
*Што крыўда сэрца нам пячэ,*
*Няпраўда сыпле соль на раны.*

*Што праўдзе трэба пэўны час,*
*Што ёй набрацца трэба духу,*
*Каб і на смех, і напаказ*
*Няпраўду выцягнуць за вуха.*

*Што часам многа валтузні,*
*Не ўсё разведаеш адразу,*
*Пакуль папаліш у агні*
*Паклёп і іншую заразу.*



*Вялікай меркай дабраты*
*Павінны вымяраць заўсёды*
*Свае працоўныя франты*
*І неўмiручай праўды ўсходы.*

* * *

Дарог патаптаў я нямала,
Іх, пэўна б, хапіла на трох.
Жыццё мяне часта кідала
У край небяспек і трывог.

Куп'ё мне было за падушку,
За коўдру асенні туман.
Шукаў сваю сінюю птушку
На ўлонні лясных я палян.

Куток абжываў не абжыты,
Сяброў я не ўводзіў у зман.
Не з каменю ж быў я адліты,
Хапала балючак і ран.

Не слаў на жыццё я даносаў,
Аднолькавы чорт мне і бог.
Лячыўся у траваў і росаў,
З сваіх не сыходзіў дарог.

Дарог патаптаў я нямала,
З дарог тых шмат песень збярог,
Што сэрца маё захавала
Пра край небяспек і трывог.

* * *

*За акном зіма і сцюжа,*
*Ей пара прыйшла шумець.*
*Мне з табой прыемна дужа*
*Нават побач пасядзець.*

*Памаўчаць, не кратаць словы*
*І памарыць, пагадаць,*
*На сардэчнай тайнай мове*
*Пра пачуцці пачытаць.*

*Сноў мінулых не трывожыць,*
*Не паліць касцёр стары,*
*Паблукаць у марах, можа,*
*Па жыццёвым гушчары.*

*Што гаворка, што гаворка?*
*А ці варт куды спяшыць?!.*
*Ад гаворкі часта горка*
*І на сэрцы, і душы.*

*Хай палеткі і дубровы*
*Нагаворацца за нас*
*На сваёй цудоўнай мове*
*Пра вясны прыгожы час.*

*Пасядзелі, памаўчалі,*
*А навошта галасы!*
*У маўчанні мы спазналі*
*Шмат і шчасця, і красы.*

* * *

Галоўнае было — прывыкнуць.
І прывыкаў я пакрысе
К птушынаму на небе крыку,
К халоднай восеньскай расе.

Хоць сэрцу і было тужліва
І непагодліва крыху,
Свае надзеі палахліва
Не гнаў пад цёплую страху.

Заўсёды рады зменам часу,
Бо адчуваеш, як жывеш.
Адразу розніцу, акрасу
Між месяцамі пазнаеш.

І прывыкаеш, прывыкаеш
Цярпець і белы нават верш.
Не толькі казачнаму Маю,
Пашану Снежню аддаеш.

Таму праслаў, прырода, працу,
Законы ўстанаві свае.
Няхай у час дажджы дажджацца,
А сонца ходзіць па жніве.

Адно заўжды крыху журботна,
Ды выйсця іншага няма,
Праводзіць птушак пералётных
У вырай ад цябе, зіма.

* * *

Гарэла сонца за акном,
Дзесь выскалялася няўдача.
Хадзіла хата хадуном
То з рогату,
То з плачу.

Нічога ў гэтым не было
Ні вельмі добрага,
Ні злога.
У хату я сяліў цяпло,
Гнаў гора ад свайго парога.

Не так праходзіла жыццё,
Як абяцалі сэрцу мары.
То тухнуў,
То гарэў касцёр,
То светла скрозь, то вокал хмары.

Не раз патыліцу я шкроб,
Не раз было мне не да смеху,
Вёў бой з натоўпамі хвароб,
З няшчасцем розным і няўцехай.

Бяду я аб'язджаў канём,
Набыў сабе на ўцеху жарты.

. . . . . . . . . . . . . .

Ну, памяркуйце, што б мой дом
Без гэтага ўсяго быў варты!

*Вось так, кажу, мы і жывём,*
*І жыць не ўмею я іначай.*
*Калі спяваецца — пяём,*
*Але перад бядой не скачам.*

## ЖУРАВІНЫ

Вакол іх белы-белы мох
І пах бяссонны багавіння.
Выпрошваць не магу трывог
Асеннім днём у павуціння.

Прыйшла да нас ва ўсёй красе
Часіна бабінага лета.
Крумкач ля возера пасе
Няспелых журавін палетак.

К саням прыладзіць палазы
Даўно мяцеліцы павінны,
Прывезці ж трэба маразы,
Каб спелі журавіны.

Без поля жаўруку не жыць,
Без васілька самотна жыту,
Без журавін імху тужыць,
А рэчцы плакаць па ракітах.

Адменны журавінны квас,
Незамянімыя з іх лекі,
Яны на слаўным месцы ў нас,
Яны — бальзам лясной аптэкі.

Гамоняць з ветрам і шумяць
Над возерам лясным асіны.
Халодным полымем гарэць
На белым моху журавіны.

* * *

*Абманулі мяне прадчуванні,*
*Не збыліся ружовыя сны.*
*Адцвіло, дагарэла каханне*
*Нечакана ў закутку лясным.*

*Я ж бярог яго, думаў, навечна*
*Хопіць песень і казачных дзіў.*
*Ды патух аганёк той сардэчны,*
*Ціхі смутак ўва мне нарадзіў.*

*Я не следчы. Шукаць вінаватых*
*Я не буду. Не буду тужыць.*
*Чым жа рану на сэрцы залатаць,*
*Горкі боль на душы заглушыць?*

*Далікатная цацка — пачуцці*
*І каханне, як майскі той цвет,*
*Бушавалі, шумелі ў закуцці*
*І пагаслі, што ўспышкі ракет.*

*Шлях жыццёвы — адны летуценні.*
*Сёння ноч, заўтра радасны дзень.*
*Дзякуй шчасцю за слодыч імгнення,*
*За красу неўміручых надзей.*

*Прадчуванням не буду я верыць,*
*Спадзяванні ў душы берагчы.*
*Буду я ад самотнасці дзверы*
*Замыкаць на надзеяў ключы.*

* * *

*Схаваны ў прадонні начэй*
*Чароўныя песні і казкі.*
*Святлей ад жаночых вачэй,*
*Цяплей і ад рук іх і ласкі.*

*Я рад неспакойнасці дня,*
*Вячэрняй ціхмянасці сцежкі.*
*Хіба толькі зорцы раўня*
*Твая незабыўная ўсмешка.*

*Я знаю, вясне красаваць,*
*У пышным быць роскваіце лету,*
*Каб постаць тваю параўнаць,*
*Патрэбна пабачыць паўсвету.*

*Танцуе, спявае зіма,*
*Яна ў гэты год непаўторна.*
*Такіх, як твой воблік, няма,*
*Ён мілы, прывабны, чароўны.*

*А вуснаў крамяных цяпло?*
*З іх хочацца шчасця напіцца.*
*Прад казкаю сэрца здало,*
*Сваіх не ўтрымала пазіцый.*

*Схаваны ў прадонні начэй*
*І казкі, і песні, і чары.*
*Святлей ад жаночых вачэй*
*На свеце, на белым абшары.*

* * *

*Я не хапаюся за восень,*
*Зіму з марозам не кляну,*
*Прыроды слаўлю сугалоссе,*
*Тваю, наш Слуцак, старану.*

*Ты пастушка калісь уразіў*
*Сваёй някідкаю красой.*
*Сатканы з паясоў і сказаў*
*Шляхі гісторыі тваёй.*

*К табе з Пясочнага я бегаў*
*За шлях няблізкі, завідна,*
*Хоць без яды, хоць без начлегу,*
*А ўбачыць першае кіно.*

*Лічыў цябе я адмысловым,*
*Другіх не знаў жа гарадоў.*
*Здаваўся ты шматпавярховым*
*З цагляным лесам камінoў.*

*І стаў ты горадам сапраўдным,*
*Нас вабіш да сябе здалёк.*
*Жыве ўва мне той старадаўні*
*Над Случчу ўтульны гарадок.*

*Я слаўлю лета, слаўлю восень,*
*Зіму з марозам не кляну,*
*Люблю прыроды сугалоссе,*
*Народных мсціўцаў старану.*

* * *

*Хіба можна мне шклянкай вады*
*Патушыць тое вогнішча ў сэрцы,*
*Што раздзьмухалі смела гады,*
*Калі полымя к выйсцю імкнецца?*

*І калі ўжо з маленства гарыць*
*Той агонь непагасным пажарам,*
*Дык яго і не варта тушыць,*
*Хай цяплом саграває ён мары.*

*Тых пачуццяў, што ўжо адцвілі,*
*Тых надзей, што згубіліся ў травах,*
*Я насенне не сею на беднай зямлі,*
*Не кашу на душы я атаву.*

*Я хачу паўзрываць дзірваны,*
*Папаліць рэшткі хламу і друзу,*
*Каб саюз маіх год і вясны*
*Быў сапраўдным сяброўскім саюзам.*

*Нас удалеч і клічуць, і вабяць агні.*
*Ах, як недзе там светла і гожа!*
*Ты імкніся туды, дагані*
*Яснату, абудзі бездарожжа.*

*Мне не трэба ніякай вады,*
*Хай гарыць тое вогнішча ў сэрцы,*
*Што раздзьмухалі смела гады,*
*Няхай полымя з сэрца праб'ецца.*

* * *

*Жыве ў нас прымаўка спрадвек,*
*Яшчэ ад азбукі, са школы:*
*— Будзь чалавекам, чалавек,*
*А не рагатаю жывёлай.*

*Не буду я сябе хваліць,*
*Бо не такая я ўжо «цаца».*
*Я ўмею толькі працай жыць,*
*І мой суддзя вышэйшы — Праца.*

*Жыццё — у шчасці, барацьбе*
*За мэт высокіх рыштаванні.*
*Шануй, любі, расці ў сабе*
*Нецярплівыя жаданні.*

*Праславіць свой дваццаты век*
*І агнявы Кастрычнік*
*Савецкі просты чалавек,*
*І будаўнік, і воін гераічны.*

* * *

*Я хачу весяліцца, спяваць.*
*Што такое са мной, я не знаю.*
*Надышла мне часіна кахаць.*
*Я не сплю, я тужу, я кахаю.*

*Я вяселле гуляю тры дні,*
*Хоць і п'ю, ад кахання цвярозы.*
*Грае музыка, ззяюць агні,*
*А з вачэй маіх коцяцца слёзы.*

*Ходзіць шчасце са мной па зямлі,*
*З ім я ўсё па-інакшаму бачу.*
*Мне кватэру сягоння далі,*
*Выціраю я вочы, я плачу.*

*Што хацець мне і што мне жадаць,*
*Гэтак хораша стала на свеце,*
*А чаму ж трэба з болю крычаць,*
*Як на свет нараджаюцца дзеці?*

*Як закончу я спеў аб жыцці,*
*Як паставіцца кропка маршруту,*
*Я хацеў бы ў нябыт адысці*
*Без традыцый старых, без пакутаў.*

*Я люблю свой Наднёманскі кут,*
*Маё сэрца ён чарамі ўласціў.*
*Я пазбыцца хацеў ад пакут,*
*А яны ходзяць разам са шчасцем.*

* * *

*Я не спыніўся на распуцці,*
*Хоць мар вяснянасць перарос.*
*Не прытупіліся пачуцці,*
*Не перайначыўся мой лёс.*

*Хоць сівізна кранула скроні,*
*Прыкметны восені сляды,*
*Яшчэ не па жалезнай броні*
*Мне адпускаюцца гады.*

*Яшчэ вятры адбой не трубяць,*
*Мой не азмрочваюць настрой,*
*Яшчэ мяне дарогі любяць,*
*І дзень са мной, і ноч са мной.*

*Яшчэ сабой хваліцца ўмею*
*І што люблю, тым даражу.*
*І хоць павольна я старэю,*
*Але па гэтым не тужу.*

*Сябе ў сучаснай маладосці*
*Знаходжу я і пазнаю.*
*Збяру к сабе надзеі ў госці,*
*Пасля сябрам параздаю.*

* * *

*Ля раўчука не часта я спыняўся,*
*Калі патрэбы не было мне ў ім.*
*І як люстэркам ім не карыстаўся,*
*Не любаваўся воблікам сваім.*

*І не крычаў аб нейкай перавазе*
*Сваёй персоны. Быў я сам сабой,*
*А хараство заўсёды меў на ўвазе*
*Любой былінкі, кветкі палявой.*

*Дзяўчат не крыўдзіў, не дражніў ніколі,*
*Сабе на небе зор не выбіраў.*
*Былі ва мне, са мной і лес, і поле,*
*І россыпы замілаваных траў.*

*І мне здавалася, што быў я шчырым,*
*Ну як травінцы, дрэўцу я схлушу?*
*Тужлівай песняй мне заўсёды вырай*
*Балюча кроіў сэрца і душу.*

*І па якіх дарогах я ні крочыў,*
*Куды б мяне ні клікалі гады,*
*Калі бядзе сваёй глядзеў у вочы,*
*Яна ўцякала ад мяне тады.*

*Цяпер ля раўчука гатоў спыніцца,*
*Ён не раўчук плюскаты, а рака,*
*Вады крынічнай лекавай напіцца,*
*Пабавіць час свой з вудай рыбака.*



*І я паеду, я пайду на Вусу*
*Блукаць па даўніх сцежках да відна,*
*Калі свае зялёныя абрусы*
*Вакол засцеле з радасцю вясна.*

* * *

*Упэўнена жаданням веру,*
*Пад гоман маладых хваін*
*Шырока адчыняю дзверы*
*У свет і казак, і былін.*

*Сабралася ў душы іх многа*
*За пройдзены жыццёвы шлях*
*Аб святах сэрца, аб трывогах,*
*Аб баявых, працоўных днях,*

*Аб даўніх і забытых сцежках,*
*Аб марах добрых і жальбе,*
*Аб светлых сонечных усмешках,*
*Якія носім мы ў сабе.*

*Аб шчасці жыць на белым свеце*
*І праслаўляць працоўны шлях,*
*Высока несці па планеце*
*Радзімы непагасны сцяг.*

*Я знаю, збудуцца надзеі,*
*Жыву я імі, веру ім.*
*Расту я з імі, маладзею*
*Пад сінім небам веснавым.*

* * *

*Я не лічу страшэннаю заганай,*
*Што ўсё не ўмею, не магу*
*Узважваць вецер, і туманы,*
*І бляскат рос на мурагу.*

*Я не шукаў такія вагі,*
*Якімі ўзважваць бы я мог*
*Запасы мудрасці, адвагі,*
*Красу нябёс і даль дарог.*

*Сумленна ў гэтым прызнаюся:*
*Я вагаў гэткіх не шукаў,*
*Таму і каюся, вінюся,*
*Што ад жыцця крыху адстаў.*

*Як вывучаць жыццё паеду*
*Ці так на рэчку, па грыбы,*
*Дык папрашу свайго Міхеда,*
*Каб тыя вагі мне набыў.*

* * *

*Я люблю таямнічасць вачэй,*
*Васільковы іх сказ нетаропкі.*
*Я не знаю, што ставіць ямчэй,*
*Запытальнік ці тлустую кропку.*

*Запытальнікаў шмат у жыцці.*
*А чаго? А чаму? А навошта?*
*Спрабаваў я адказы знайсці,*
*Ды знайсці ўсе адказы не проста.*

*Чалавеку не хопіць жыцця,*
*Каб праявы яго растлумачыць,*
*Каб жыцця няўмiручага сцяг*
*Па-жыццёваму мудра адзначыць.*

*Я іх блытаў. Я з сэрца сціраў*
*Ці глядзеў, як нявольнік на краты.*
*Чым пытальнікаў больш я збіраў,*
*Тым быў больш прад сабой вінаваты.*

*Каб пытальнікі ўсе скасаваць*
*Ці пайсці навучацца нанова,*
*Каб для кожнага з іх адшукаць*
*Тлумачальнае пэўнае слова.*

*Калі што не магу зразумець,*
*Я пытальнік абходжу, як можна.*
*Каб бяды там якой мне не мець —*
*З пунктуацыяй я асцярожны.*

*Я люблю таямнічасць вачэй,*
*Васільковы іх сказ нетаропкі.*
*Знаю я, што паставіць ямчэй*
*Будзе мне не пытальнік, а кропку.*



*Гэтакі ўтульны дамок на гары.*
*Вабіць ён, кліча: — Зайдзі, калі ласка!*
*Пэўна, цікавыя ў ім жыхары,*
*З песні вясёлай, чароўнае казкі.*

*Нас да той цацкі, да казачкі той,*
*Як экскурсантаў, вядуць піянеры.*
*Цуда — не домік, над Нёмнам-ракой,*
*Вокны да столі, распісаны дзверы.*

*Я захапленне выказваю ўслых:*
*Мы зачараваны, мы ўсхваляваны!*
*Казачны домік той з песень і кніг*
*Бібліятэкай вясковай названы.*

*Домік той з кветак, вясенняй зары,*
*З ясных усмешак, вясёлых карункаў.*
*Будзе для нашае ён дзетвары*
*Вечна жывым, дарагім падарункам.*

* * *

*Крыніц не трэба каламуціць,*
*Кранацца сэрца чысціні.*
*Наіўная паэзія пачуццяў*
*Жыве ў асенняй цішыні.*

*Іх шмат стаптана, не прынята,*
*Забыта музыка надзей.*
*Сарваў я, помню, руту-мяту*
*На шчасце ў непагожы дзень.*

*Куды пабегла тое шчасце!*
*Яму не выбіраць дарог.*
*І ні пазычыць, і ні ўкрасці*
*Яго дагэтуль я не змог.*

*Старых мелодый я не ганю,*
*Загана ў іх мне не відна.*
*За што павінен лаяць каню,*
*Што песенька ў яе адна?*

*Дык і ў мяне адна заўсёды,*
*Я праз гады яе пранёс.*
*Шмат варыяцый, шмат мелодый,*
*А пра адзін і той жа лёс.*

*Крыніц не будзем каламуціць,*
*Ахоўваць сэрца чысціню.*
*Гучы, паэзія пачуццяў,*
*Ірвіце, песні, цішыню.*

* * *

*Што лічыць мне абавязкам,*
*Як мне апісаць прамень,*
*Называць былое казкай*
*І легендай новы дзень?*

*Я на выдумкі не гожы,*
*Слоў і рэчаў не ўладар,*
*Ненадзейных бездарожжаў*
*Бездарожны гаспадар.*

*Нельга жартам перабіцца,*
*Нельга з праўдай ваяваць.*
*Будзем працай ганарыцца,*
*Дзень наступны сустракаць.*

*Звонкай песняй славіць будзем*
*Добрых поспехаў прыход,*
*Плён штодзённы нашых будзен,*
*Сонца захад і усход.*

*Нам з надзеямі заўсёды*
*Толькі к радасці ісці,*
*Мы з надзеямі ў паходах,*
*Мы з надзеямі ў пуці.*

*Дружнай выйшлі мы паходкай*
*Штурмаваць вялікі шлях.*
*План дзесятай пяцігодкі*
*Наша мэта і наш сцяг.*

*Клічуць сцежкі, калі ласка,*
*Іх красы не забываць,*
*Пагасціць у новых казках,*
*У легендах пабываць.*

* * *

*Раўлі вятры да хрыпаты,*
*І ўжо тады, калі ахрыплі,*
*Дык на падсцілцы з лістаты*
*Прылеглі адпачыць пад ліпы.*

*Ой, нахадзіўся я за дзень,*
*Пара і мне б ужо прылегчы,*
*А я блукаю, нібы цень,*
*Гатовы на начлег пабегчы.*

*Калі ўсё кліча і заве*
*Мяне, асобу гарадскую,*
*Прайсціся босым па траве,*
*Прыпомніць сцежку палявую.*

*Гадам падлік я не вяду,*
*Хоць іх ужо не мала маю,*
*Яшчэ ў нязнанае іду*
*І словы новыя шукаю.*

* * *

*Я не баяўся памыліцца*
*І заблудзіцца між бяроз,*
*Я не саромеўся журыцца,*
*Не паважаў я толькі слёз.*

*Калі ў слязах людзей пабачу,*
*Дык устрымацца не магу,*
*Па самай праўдзе з імі плачу*
*І падзяляю боль, тугу.*

*Ва ўсіх я справах памяркоўны,*
*Патрэбна дапамога — дам.*
*То ж гора, выпадак раптоўны,*
*Як-небудзь абыдуся сам.*

*Заўсёды хітрасці, падману*
*Нідзе не саступаў дарог,*
*Ад іх атруты і туману*
*Жыццё людское я бярог.*

* * *

*Я на ўзлессі стаю веснавым.*
*На Капыль прабягае дарога.*
*Задаволен я лёсам сваім,*
*І мне лёсу не трэба другога.*

*Шуганулі пад сонца бары*
*На пяску, на збяднелым падзоле,*
*Прынясуць нам лясныя дары*
*У асеннім пярэстым прыполе.*

*З захапленнем гляджу на паркаль*
*Гэтых ніў неаглядна шырокіх.*
*Гоніць вецер хмурынкі удаль*
*Па блакітных нябёсах высокіх.*

*На палетках шуміць збажына,*
*Вецер жыта, як мора, гушкае.*
*Перайшла ўжо у лета вясна,*
*Сонца хлеб залаты выспяляе.*

*Я нямею, бы сам я ў дайгу,*
*Перад гэтай жывой прыгажосцю.*
*Што з таго, што прызнацца магу,*
*Што бываю не частым тут госцем.*

*Будзе вечна жыццё красаваць,*
*Будуць сцежкі пылець палявыя,*
*Будуць людзі і сеяць, і жаць,*
*Ну дык што ж, што не мы, а другія.*



*Я з палеткаў зусім маладым*
*Пачынаў сваю ўдалеч дарогу.*
*Задаволен я шляхам сваім,*
*І не трэба мне лёсу другога.*

* * *

Люблю я вандраваць па белым свеце.
Самому лепш убачыць, чым пачуць,
Як з хваляю марской гуляе вецер,
Як пальмы на экватары цвітуць.

Як свет вялікі, як неаднальковы,
Непараўнальны ўвесь зямны прастор.
Зялёны колер, жоўты, васільковы,
Зубцы гарбатых, як вярблюды, гор...

Хачу я быць вандроўнікам заўсёды,
Пабачыць свет крыху, яго спазнаць,
Каб аб жыцці далёкіх нам народаў
Свайму народу звонка перадаць.

Няхай удаль гады, як рэкі, льюцца,
З вандровак на Радзіму шлях бяжыць.
Бяда, калі няма куды вярнуцца,
Ды мне ніколі бежанцам не быць.

* * *

*Крочу з радасцю па полі,*
*Абмывае сонца твар.*
*Паважаю сваю долю,*
*Працы новай гаспадар.*

*Абыходжу сваю ніву,*
*Не нацешуся з красы.*
*Лашчыць ветрык гаманлівы*
*Залатыя каласы.*

*Разліваюцца ў блакіце*
*Песні-звоны жаўрукоў.*
*Я нарву ў высокім жыце*
*Сваёй мілай васількоў.*

*Як не пець, не весяліцца,*
*Як не славіць родны край,*
*Есць і жыта і пшаніцы*
*Небывалы ураджай.*

*Па сваім хаджу я полі,*
*Сонца мне смяецца ў твар,*
*Ураджаем слаўлю долю*
*Я, калгасны гаспадар.*

* * *

*Не прыміраў я між сабою*
*А ні жаданняў, ні надзей.*
*Яны вясёлаю гурмою*
*Са мной ішлі ў наступны дзень.*

*Без іхняй цеплыні і ласкі*
*Запал бадзёрасці б пагас.*
*Яны ж па песні і па казкі*
*Са мною бегалі не раз.*

*Без іх не мог бы захапляцца*
*Красой у роднай старане,*
*Вясной на восень спадзявацца,*
*Зімою марыць аб вясне.*

*Без іх не ведаў бы граніцы*
*Паміж бядою і дабром.*
*Люблю надзеі-чараўніцы*
*У ціхі свой прыводзіць дом.*

*Пакуль мой шлях не абарвецца,*
*Пакуль на свеце буду жыць,*
*Красу надзей душой і сэрцам,*
*Як песню, буду я любіць.*



*Снег ляжыць на прасторах балот.*
*Вораг бомбы нядаўна тут скінуў.*

. . . . . . . . . . . . . .

*Выгарае тарфяны ўвесь спод*
*Пакрысе аж да самае гліны.*

*Над Палессем гушкаецца дым.*
*Тлее торф.*
*Выгараюць балоты.*
*Патушыць іх няможна нічым,*
*Гумус чорны пайшоў на згіноту.*

*Нам прыстанкам абшар быў балот,*
*Памагаў нам з чужынцамі біцца.*
*...Праз тарфянік закрыты праход,*
*Можна ў самае пекла ўваліцца.*

*Гэта столькі загіне дабра*
*На вайне той,*
*Народам праклятай,*
*Каб агонь не пайшоў па барах,*
*Мы канавы капаем лапатай.*

*Як мы можам, дык так беражом*
*І свой край,*
*І здабытае шчасце.*
*Мы ваюем са смерцю, з агнём,*
*З фашыстоўскаю чорнай напасцю.*

*На сваёй мы зямлі не далі*
*Жыць фашысцкім бандытам паганым.*
*К Перамозе народ прывялі*
*Мы пад сцягам сваім палымяным.*

# ПЕСНЯ ПРА МІР

На свеце многа слоў крылатых,
Па зместу мудрых і багатых,
Такіх бяссмертных і адзіных,
Як маці, дружба, як Радзіма,
З усіх гучыць на свеце моваў
Адно ласкава і сурова.
І слова — шчасця павадыр,
Завецца гэта слова — мір.

Красуня наша Планета
Вялікімі людзьмі апета,
Але Зямля б не красавала,
Каб міру між людзьмі не стала.
І парашылі так народы:
Не парушаць з сабою згоды,
І слова «мір», як запавет,
Гучыць на ўвесь вялікі свет.

* * *

*Не па лёгкім хадзіў я шляху,*
*І было майму сэрцу не лёгка*
*На балотным грудку, на імху,*
*На тым багнішчы чорным і дрогкім.*

*Як прымерыць, цяпер паглядзець,*
*Як прыкінуць на мілі і вёрсты,*
*Як хадзіў я па мокрай рудзе,*
*Як я жыў паміж гэтай каросты?!*

*А прыстанак я свой пазнаю*
*Між паўзучай лазы і алешын,*
*Хвалявання ў душы не таю,*
*З буданом я спатканнем усцешан.*

*Што ж, буданчык крыху пастарэў,*
*Акружыў сябе хмызам навокал.*
*Ты ж мяне ашчаджаў тут і грэў,*
*Быў прытулкам у час той далёкі.*

*Прывітаць ад душы цябе рад,*
*Партызанская сціплая хата.*
*Не забуду зялёных я шат —*
*Паратунку лясному салдату.*

* * *

*Прыеду я вясной да Нёмана пагрэцца,*
*Па берагах шаўковых пахадзіць.*
*Я абяцаў з вяскоўцамі сустрэцца,*
*Мне з імі ёсць пра што пагаварыць.*

*Хоць па мінулым сумаваць не ўмею,*
*Яно даўно на сэрцы дзесь ляжыць,*
*А ўсё ж на могілках старых нямею,*
*З журбой гляджу на зоркі і крыжы.*

*Былое зданню прабягае міма,*
*Шляхоў мне не знайсці да даўніх дзён.*
*Гляджу на свет жывымі я вачыма,*
*Юнацтву землякоў маіх паклон.*

*Іх толькі па бацьках пазнаць гатовы,*
*Па справах добрых, залатых руках,*
*Яно жыцця нязломнага аснова,*
*Яно надзей і нашых мэт размах.*

*Няхай шуміць, красуе маладосцю*
*Наш кожны новы дзень, наступны час.*
*Няма чаго былому мне зайздросціць,*
*Касцёр зары вячэрняй не пагас.*

* * *

Як пабачыш тую ўсмешку,
Што за сонейка ярчэй,
Не забудзеш к сэрцу сцежкі,
Не забудзеш ты вачэй.

Як случчанка засмяецца,
Як гаворку завядзе,
У палон патрапіць сэрца,
Сэрца ў хлопца прападзе.

Сад у цвеце, луг зялёны,
Як мне песень не спяваць.
Са шчаслівага палону
Не хачу я уцякаць.

Выбірай дзяўчыну ў Слуцку,
З ёю ты не прападзеш,
Па-сяброўску ды па-людску
Да стагоддзя дажывеш.

Дык шукай такую ўсмешку,
Што за сонейка ярчэй.
Для кахання сваю сцежку,
Тое полымя вачэй.

* * *

*Здаецца, што бачу ўсё тое,*
*На што ўжо забыўся глядзець.*
*Надзеі кіруюць настроем,*
*Настрой жа не можа старэць.*

*З былой маладосці няўтульнай,*
*Што некалі ў сэрцы жыла,*
*Для мары сваёй беспрытульнай*
*Збіраю ўраджай я цяпла.*

*Здаецца ўсё гэтакім мілым,*
*Што бачу я ўсё ўпершыню,*
*Што шчасце на казачных крылах*
*Я недзе ў шляху даганю.*

*Адно мне цяпер застаецца —*
*Сваю не хіліць галаву,*
*Хай марыцца мне і здаецца,*
*Што я ў нейкай казцы жыву.*

*І я забываю пра стому,*
*І сінюю птушку сваю*
*У лесе лаўлю невядомым,*
*У дальнім заморскім краю.*

*Як добра ў надзеях гушкацца,*
*Збіраць, нібы жэмчуг, расу,*
*Калгасныя славіць палацы,*
*Людзей працавітых красу.*

## ПРА СУМЛЕННЕ

*«Сумленне — вартаўнік душы»,*
*Калісь сцвярджалі чарадзеі*
*І пасяляліся ў глушы,*
*На праўду страціўшы надзеі.*

*Міналі дні. Змяняўся свет.*
*Не стала болей глухамані.*
*Ад мудрасці застаўся след*
*Жыць у легендах і паданнях.*

*Сумленне — нашых спраў вага*
*І атэстат душы людское,*
*Па ім нам выверыць ільга,*
*Што добрае, а што пустое.*

*Па ім знаходзім мы сяброў,*
*Яно, як нашае прычасце,*
*Благаслаўляе і любоў,*
*І на зямлі зямное шчасце.*

## У ЧАС ПАХМУРЫ

У час пахмуры, час круты
Не ашчаджаў расчараванні,
Яны апалі, як лісты
З тапі асенніх
На світанні.

Іх вецер пагушкаў крыху
І між бярэзінак і ліпаў
На шэрым выцвілым імху
Зямлі за подсцілку рассыпаў.

Хіба магчыма прыгадаць
Былых расчараванняў цені?
Па іх мне грэшна сумаваць,
Другія выраслі імкненні.

Не ім жа ўвекавечваць час,
Пражыты некалі табою.
Ніякіх не люблю прыкрас
І выхваленняў после бою.

Яшчэ ў нязморанай душы
Шумяць надзеі і жаданні.
Таму не буду варушыць
Мінулых дзён расчараванні.

## Я ПЕРАПОЎНЕН ЗАХАПЛЕННЕМ

*Было. Адольвалі сумненні,*
*І нерашучасці хапала,*
*Не расцвітала захапленне,*
*І нават мара памірала.*

*І пустата за гаспадыню*
*Бывала ў сэрцы не аднойчы.*
*Сваю згубіўшы пуцявіну,*
*Я па чужым шляху не крочыў.*

*Стаяў на дальнім скрыжаванні,*
*Асалавелы і пахмуры,*
*Пакуль прабілася світанне*
*І змрок параскідала бура.*

*Бяда, калі не тая ласка*
*Манoccupation ліпкаю агорне,*
*Калі ў сваю прабіцца казку*
*Табе пакутліва і горна.*

*Часы я тыя не са злосцю,*
*Але з журбою ўспамінаю.*
*Чаго ў няспелай маладосці*
*З людзьмі раптоўна не бывае?!*

*Даўно я пераплыў сумненні,*
*Не ў сілах пераплыць жаданні.*
*Я перапоўнен захапленнем,*
*Жыццё ўспрымаю з хваляваннем.*

* * *

*Не маю скаргі я на ўмовы,*
*Перад бядой не гну калень.*
*Вясною нават адмысловай*
*Не супадаюць дзень на дзень.*

*Адзін — пагожы і ўрачысты,*
*Працяты сіверам — другі.*
*Адзін, нібы крыніца, чысты,*
*Другі — з самоты і смугі.*

*Каб на зямлі было ўсё роўным,*
*Як тыя кропелькі вады,*
*Мы не змаглі б у днях чароўных*
*Адрозніць шчасце ад бяды.*

*І на шляху маім жыццёвым*
*Хапала розных баразён,*
*І каляровых, і суровых,*
*І добрых, і нядобрых дзён.*

*Прымаю ласку і не ласку*
*Сваіх я пройдзеных дарог.*
*Яны ўжо даўняй сталі казкай*
*І песняй шчасця і трывог.*

## КАЛІ ЗАЗВІНЕЛІ АЎСЫ

*У срэбных абдымках расы*
*Лугі за ракой прыцішэлі.*
*Калі зазвінелі аўсы,*
*Тады і арэхі даспелі.*

*Прыкмет не збіраў я старых,*
*Яны мне з маленства вядомы.*
*Люблю я блукаць па бары,*
*Я ў лесе заўсёды, як дома.*

*Арэшнік, як шчотка, густы*
*Расце на Асовай палянцы.*
*Спяліў я арэхаў кусты*
*На той Неманецкай дзялянцы.*

*Ваверкі хадзілі сюды,*
*Яны да тых зернетак ласы.*
*Каб добра пражыць халады,*
*Яны сабе ладзяць прыпасы.*

*Калі дап'е сонца расу*
*І ў лес з поля выбяжыць рэха,*
*Дык я цэлы мех прынясу*
*Унучцы даспелых арэхаў.*

* * *

*З кудлатых хмар, нібыта з прасніц,*
*Свае праў ніткі цёплы дождж.*
*Хацелася, калі праясніць,*
*Пабегчы лугам басанож.*

*А то ж, нібы ў гаршку варыла,*
*Гарэла сонца тыдні два.*
*Цяпер ад вільгаці дыміла*
*Удзячнай парай мурава.*

*Уся зямля пахарашэла,*
*Здаецца, й спёкі не было.*
*Усё па-веснямy запела,*
*Усё нанова зацвіло.*

*На жытнім полі знікла стома.*
*Ай, спорны дождж, яшчэ падсып.*
*Яшчэ не зжухлая салома,*
*Трымае моцна каласы.*

*Між хмар нячутны гром праехаў,*
*Пакрыўдзіць хмары ён не мог,*
*Завуркатаў зялёным рэхам,*
*Спачыць на воблаках прылёг.*

*Абмытае і маладое,*
*З-за парадзелых цёплых хмар*
*Зірнула сонца. Пад дугою*
*Вясёлкі цвіў зямны абшар.*

## ГОЛАД — НЕ ЦЁТКА

*А я касіў, і жыта жаў,*
*І за драчом ганяўся.*
*А ён, той драч,*
*Мяне стамляў,*
*А я? А я злаваўся.*

*Цыбаты, даўганогі драч,*
*Даруй цяпер старому,*
*Па хлебу быў у хаце плач,*
*А ты ж тады быў скорам.*

*Загончык вузкі*
*З маці жну*
*Перад світальным небам.*
*Здаецца, сонца праглыну,*
*Яно ж, як бохан хлеба.*

*А перапёлкі прад зарой*
*Свае спяваюць песні.*
*Туман, нібыта сырадой,*
*Ты ж з голаду —*
*Хоць трэсні.*

*Дзіцячы не забыць адчай*
*На тым іржышчы колкім...*
*А не злавіў я ні драча,*
*Ні ў жыце перапёлкі.*

# МОЙ БАЦЬКА

Мей бацька талент не вялікі,
Усё патрошку ён умеў,
Старыя латаць чаравікі
І збудаваць гумно і хлеў.

Гушкаў плыты вясною Нёман,
Пакуль там будзе сенакос.
Без працы не сядзеў ён дома,
Цяжар жыццёвы моўчкі нёс.

Рыбак ён быў па ўласнай волі,
Ды толькі ў прахадныя дні.
Але ўжо што датычыць поля,
Яму тут не было раўні.

Тут разуменне, тут паняцце
Зямлі законаў і патрэб.
Яго аддзячвалі багаццем,
На стол духмяны клалі хлеб.

# АЖЫВАЮЦЬ ДАЎНІЯ ТРЫВОГІ

*Зараслі ўспамінамі дарогі,*
*Я пралажу,*
*Быццам праз хмызняк,*
*Праз свае даўнейшыя трывогі,*
*Каб прабіцца неяк на бальшак.*

*Зараснік мяне ў бакі адводзіць.*
*Дзе сляды былыя?*
*Не знайсці.*
*Як жа мог па гэтай я выгодзе*
*Гэтак незаўважана прайсці!*

*Час прыносіць змены.*
*Час мяняе*
*Кожны воблік, кожную красу.*
*Што было, я ў сэрцы захаваю,*
*Маладым і светлым пранясу.*

*Мне здавалася,*
*Што да драбніцы*
*У душы і сэрцы зберагу*
*Даўні гоман сосен, плёск крыніцы,*
*Сон, што сніўся ў свежым мурагу.*

*Мне здавалася...*
*Час змены ўносіць,*
*І нанова я гляджу на свет.*
*Час надзеі сее. Час і косіць,*
*І заносіць лёгкім пылам след.*



*Зараслі ўспамінамі дарогі,*
*Бачу я той зараснік густы.*
*...Ажываюць даўнія трывогі,*
*Б'юцца партызанскія франты.*

* * *

*Яшчэ не выпіў я да дна*
*Ні хараство вачэй дзявочых,*
*Ні радасці тваёй, вясна,*
*Ні салаўіных песень ночы.*

*Таму мне на тваім плячы*
*Не раз яшчэ суцішваць стому,*
*У шлях не блізкі ідучы*
*Пад песні бэзу і чаромух.*

# *ПАД РАХМАНЬКАМІ БЯРОЗЫ...*

*Маці*

*У добры час — сяброў багата,*
*У горкі час — сяброў няма,*
*Заходзіцца ад гора хата,*
*Бяда царуе тут сама.*

*Нічога я не заўважаю,*
*Я абыякавы тады,*
*Таго не бачу, што шукаю,*
*Іду, не ведаю куды.*

*І ўсё ж такі, хоць ачмурэлы*
*І хоць без памяці, іду.*
*Мне лес паможа пасівелы*
*Адолець смутак і бяду.*

*Я не забуду дзень той шэры,*
*Труну, халодную жарству,*
*Калі я ў хату зблытаў дзверы*
*І сам не ведаў, ці жыву.*

*Не вераць ні душа, ні розум...*
*Стаяць, як памяць для людзей,*
*Тут пад Рахманькамі бярозы,*
*Да іх сцяжынка — без надзей.*

# Я ІНАЧАЙ НЕ ЎМЕЮ

Не цярплю я людзей,
Каму лёгка жывецца,
Хто не росціць надзей,
А да славы ірвецца,

Хто як труцень жыве,
Ні на што не зважае,
Нават з горла ірве,
Не сваё спажывае.

Есць такія яшчэ,
Што з дабром не ва ўладзе,
І бядой апячэ,
І нахлусіць, і ўкрадзе.

Не баюся бяды,
Як яна ні лютуе,
Мяне праўда заўжды
Ад няшчасця ратуе.

На ману не маўчу,
Не дам волі зладзею.
Я інакш не хачу,
Я іначай не ўмею.

* * *

Люблю заўсёды я чытаць
Зялёную лясную кнігу.
Па-свойму дрэвы ўсе гучаць
У звонкі час і ў час адлігі.

А ты паслухай, зразумей
І прачытай гамонку бору,
Калі пад музыку завей
Свае ён пацеры гаворыць.

Калі перад навалай ён,
Каб зменшыць грукат перуновы,
У свой лясны сігналіць звон,
Выстрайвае самаахову.

Лясныя літары — сляды,
У словы іх я паскладаю
І пра жывёльны свет тады
Унучцы казкі пачытаю.

Чытаў я многа розных кніг,
Шмат забываецца патроху.
Найлепшаю лічу я з іх
Лясную кніжку — дрэў і моху.

* * *

*На зямлі няма дарог у мары,*
*Трэба іх пабудаваць,*
*Каб на нашым на зямным абшары*
*Казкі з неба прызямляць.*

*На зямлі няма мяжы надзеям,*
*Як жыццю няма граніц.*
*У людскія сэрцы іх мы сеем*
*Разам з подыхам зарніц.*

*У здзяйсненні бачым свае мэты.*
*Кожны радасці каваль.*
*Будзе і абжыта, і сагрэта*
*Намі заўтрашняя даль.*

*Нашы справы з мроямі ў суладдзі,*
*Без надзей не ўмеем жыць,*
*Калі мары смелыя ва ўладзе,—*
*Не даводзіцца тужыць.*

*Каб на мірным на зялёным шары*
*Радасць казак прызямляць,*
*На зямлі сваёй дарогі марам*
*Будзем дружна будаваць.*

* * *

*Узрост чалавека, гады*
*Не маюць дзяржаўнай граніцы.*
*У думках хапае хады*
*Па нівах, гаях і крыніцах.*

*У марах дзе я ні бываў,*
*Якія ні сніліся далі,*
*А пашпарт свой не прад'яўляў,*
*Нідзе дакумент не пыталі.*

*Узрост чалавека, гады*
*Не маюць дзяржаўнай граніцы,*
*Але адчуваеш заўжды,*
*Дзе праўда, дзе гора гняздзіцца.*

* * *

*Толькі часам смутак агартае,*
*Як пабачу стоптанае жыта,*
*Што жыццё гадоў мне не вяртае,*
*Што не так, як марыў я, пражыта.*

*Ды па гэтым смутку жыць магчыма,*
*Я не злосны, я і не тужлівы.*
*Ды не ўсё прапала шэрым дымам,*
*І сяўба была, было і жніва.*

*Час паклаў свае сляды на твары,*
*Страціў выгляд свой, свае абрысы,*
*Стаў я, як сяло пасля пажару,*
*І сівы, маршчыністы і лысы.*

*Пакарэжыў час мяне страшэнна,*
*Каб пазнаць, дык трэба прыглядзецца.*
*Як жа можа гэтакія змены*
*Вытрымаць паношанае сэрца!*

*Можа, качка недзе ўбрыкнула?*
*Пасяджу тады я каля хаты.*
*Быў жа некалі і я ў мінулым*
*На красу вясеннюю багаты.*

*Што ж паробіш. Смутак агартае,*
*Як пабачу стоптанае жыта.*
*Час гадоў мінулых не вяртае,*
*Бо яны даўно табой пражыты.*

* * *

Сухое палена ў кастры
Гарэць памагае сырому.
Мне быў у зялёным бары
Будан палавінаю дома.

Пра ўтульнасць не марыў тады,
Абы была нейкая схова
Ад ветру, асенняй вады,
Ад спёкі і сцюжы суровай.

У змрок каламутнай начы
Агеньчык разводзілі ўмела,
Шчапалі на дрэўку карчы,
Каб меней цяпельца дымела.

Гатовы цяпер да драбніц
Прыпомніць паходы былыя,
Жывую вадзіцу крыніц
І нашыя песні лясныя.

Я ведаю сам па сабе,
Што страх мне не засціў дарогі,
А ў нашай святой барацьбе
Былі хваляванні й трывогі.

Пашану заўжды аддаю
Нязломнай упартасці волі.
Той быў неадольны ў баю,
Хто страхі ў сабе ўсе адолеў.



*Сухое палена ў кастры*
*Гарэць памагае сырому.*
*Так памяць мяне па бары*
*Праводзіць сцяжынкай вядомай.*

* * *

*Здаецца, не было ніколі*
*Ні тых дарог і ні тых дзён*
*З шырокім неабдымным полем,*
*З гамонкай ёлак і сасён.*

*І гэтых каляін глыбокіх,*
*І гэтых спаленых мастоў,*
*І чортавых на багне вокан,*
*Бяздымных у туман кастроў,*

*І незвычайнай асцярогі*
*Не для таго, каб мецъ прывал,*
*І не з-за страху і трывогі,*
*Каб біць чужынца напавал.*

*Выразна бачу з-за развілкі*
*І мост жалезны на Пцічы,*
*І, можа, даўнія памылкі,*
*І нашы выбухі ўначы.*

*Счынае сэрца моцна біцца,*
*Балюча памяць ажыла,*
*І кроў людская — не вадзіца,*
*Што некалі ракой цякла.*

* * *

*Прыгадай сваю сялібу,*
*Дзе быў дзёран за страху.*
*На акенцы з лёду шыбы,*
*Між бярвенняў жменька мху.*

*Аніякага знадворку,*
*Аніякага жытла,*
*Сосны стройныя на ўзгорку,*
*Ні кала і ні двара.*

*Ні ўвахода і ні выйсця*
*З будана нідзе няма.*
*Тут і зараз, як калісьці,*
*Гаспадыняю зіма.*

*Да цяперашняга дома,*
*Што на Зыславе між хвой,*
*Шлях мне блізкі і знаёмы*
*У будан, што пад зямлёй.*

*Ёсць і спальня. Ёсць і сені,*
*Хоць жылых няма прыкмет.*
*Замятае ззаду венік,*
*Як мяцеліца, мой след.*

*Я сваю задачу знаю,*
*Загартован я ў баях.*
*З-пад зямлі я вырастаю*
*З аўтаматам у руках.*

*Не было ў нас баязліўцаў.*
*Не злічыць маіх брыгад.*
*Я за кроў, за слёзы — мсціўца,*
*Я — лясны былы салдат.*

* * *

*А мне святло не трэба ўночы,*
*Каб бачыць, як закрыю вочы.*
*Я спаць магу ў сваёй старонцы,*
*Калі сцямнее і пры сонцы.*
*Ды як сябе ні сцерагу,*
*Падпільнаваць сон не магу.*

*Мне так здавалася калісьці,*
*Што буду я шаптацца з лісцем,*
*Пад шэпат іх, пад іх напевы*
*Я музыку спазнаю дрэваў,*
*Калі ж да іх свой ключ знайду,*
*На словы спеў перакладу.*

*Але як многа я не знаю,*
*Чым больш знаходжу, больш шукаю,*
*Заўжды трывогаю абняты,*
*Як завяршу свой дзень пачаты,*
*Якою музыкаю слоў*
*Услаўлю да жыцця любоў?*

*Не толькі днём, цяпер і ўночы*
*Свае не ашчаджаю вочы,*
*І час мінулы даганяю,*
*І ўжо забытае шукаю,*
*Але пра тое прамаўчу...*
*Што немагчымае хачу.*

* * *

*Таго, што страціў, не шукаю.*
*Ну, дзе я маладосць знайду?*
*Яшчэ ў дарозе пагубляю*
*І тое, з чым у свет іду.*

*Назад не ўмею я вяртацца,*
*Няма ў жыцці дарог назад.*
*Не варта марна спадзявацца,*
*Што стане маем лістапад.*

*Хоць як ты хочаш ці не хочаш,*
*Цяжэй знайсці, чым парашыць.*
*Кусок адрэзаны не сточыш,*
*Пялёсткі кветцы не прышыць.*

*Закон жыццёвай раўнавагі*
*Нясём на ўласных мы руках.*
*Я не шукаю переваґі*
*Ні ў сталых, ні ў юначых днях.*

*Усе яны сатканы з казак,*
*З вясёлых песень і надзей,*
*Не могуць аднолькова ўразіць*
*Старых і маладых людзей.*

*Яны, як момант, непаўторны,*
*Імгненне, ўспышкі аганёк.*
*У кожным дні свая чароўнасць,*
*Наперад незваротны крок.*

## НАПРАДВЕСНІ

Да лясных я прыслухаўся трэляў,
Яны поўны нязгаснай красы.
Птушкі зноў на вясновых арэлях
Правяраюць свае галасы.

Гэта спроба запевак для песень,
Гукі флейт і цымбал на зары,
Што нядаўна развеселі ў лесе
На ўсіх дрэвах яго жыхары.

Гэта спеўкі. Заняткаў пачатак.
У крылатых — крылаты напеў.
Будзе ў пушчы зялёнае свята,
Каб ад шчасця я плакаў і млеў.

На вячэрніх і ранішніх сходках
Мы не ўдзельнікі, а слухачы.
Заліваюцца песняй салодкай
Берасцянкі, гняздо віючы.

Дзяцел пробуе бубен драўляны,
А жаўрук — галасісты званок.
Будзе ў маі спяваць апантана
Дрэва кожнае, кожны лісток.

Вецер з сонца заранак накрэсліў
І павесіў з аблок дываны.
Я з увагаю слухаў на ўзлессі
Урачыстыя песні вясны.

* * *

*Зжынаў хмурынкі ў небе невысокім*
*Маладзіка сярэбраны сярпок.*
*Самотна зорка трапятала ў змроку,*
*Спыніўшы каля месяца свой крок.*

*Яны ўдваіх у бездані віселі,*
*Нібыта неба вымерла за дзень.*
*А на зямлі вясенняе вяселле*
*Прыйшоў прадмайскі вечар паглядзець.*

*Яшчэ ні на бярозах, ні на клёнах*
*Ні лісцейка, ні завязі на цвет.*
*Дажджы зямлю не вымылі ад стомы.*
*Яшчэ ў лясах зімы халодны след.*

*Хоць голадна і холадна на нівах,*
*І дрэмлюць па начах яшчэ бары,*
*З далёкіх выраяў у край шчаслівы*
*Крылатыя спяшаюць жыхары.*

*Надыдзе час. На неба выйдуць зоры,*
*Іх гэтак будзе многа, як зярнят,*
*І стане ўся зямля зялёным морам,*
*І зацвіце яна, як майскі сад.*

*Самотна ў небе зорка дагарае,*
*Упаў за лес маладзіка сярпок.*
*Жаўрук на крыльцах пругкіх уздымае*
*Пад раніцу над полем свой званок.*

* * *

*Я нічога не шкадую*
*І нямногага хачу.*
*Толькі песню веснавую*
*Да сябе не прыручу:*

*Хай жыве, пяе, смяецца,*
*Нібы сонечны прамень,*
*Хай усцешыць маё сэрца*
*У асенні хмуры дзень.*

*Я нічога не шкадую,*
*А ні смутку,*
*Ні бяды.*
*Я са словамі вандрую,*
*Не тамлюся ад хады.*

*Мне, асенняму,*
*Не спіцца,*
*Не хачу праспаць вясну,*
*Гукі срэбранай крыніцы*
*Я зімой сцюдзёнай сню.*

*Я нічога не шкадую,*
*З сэрца радасці не рву,*
*Па сваёй зямлі вандрую*
*І надзеямі жыву.*

*Я люблю напеў таполяў,*
*Шэпат клёнаў і бяроз,*



*Зачарован жытнім полем*
*Я да радасці і слёз.*

*Я нічога не шкадую,*
*З песняй па жыцці вандрую.*

* * *

*Я захапленнем адкрыцця*
*Заўсёды даражу.*
*І светлай радасці жыцця,*
*Нібы салдат, служу.*

*Служу і цешуся зямлёй,*
*Травінкай, каласком,*
*Хоць не вясенні месяц мой*
*Стаіўся пад акном.*

*Але сябе не выдаю,*
*Утойваю гады,*
*Што звезлі маладосць маю*
*Няведама куды.*

*І не прыкмеціў я, калі*
*Адцвіў мой пышны чуб,*
*Калі мы з восенню ўзялі*
*Свой памяркоўны шлюб.*

*Я не дайду да забыцця*
*Апошняе мяжы,*
*Не страчу смаку пачуцця,*
*Пакуль патрэбна жыць.*

*А значыць, буду забываць,*
*Што пад вачмі кругі*
*І што на мне ляжыць пячаць*
*Вячэрняе тугі.*

* * *

*Святкуюць развітанне з летам*
*Лугі, палеткі і лясы.*
*Прырода поўна самацветаў,*
*Жывой нявыказнай красы.*

*Я аддаю сябе ва ўладу*
*Замілавання, светлых мар,*
*Не вельмі добрую прынаду*
*З адных надзей і позніх мар.*

*Яшчэ турбуе захапленне,*
*Агонь здзіўлення не пагас.*
*Гатоў стаяць я на каленях*
*Перад табой, вясенні час.*

*І здзіўляцца, і здзіўляцца,*
*Што час душу не ўкрыў жарствой,*
*І захапляцца, захапляцца*
*Зямным нязгасным хараством.*

*Люблю з маленства я світанні,*
*Снапкі праменняў залатых.*
*І — бласлаўляю я жаданні,*
*Забыўшы пра нязбыўнасць іх.*

* * *

*Агеньчык вачэй не тушу,*
*Плачу за прыемнасць дабром.*
*Заходзь, калі ласка, ў душу,*
*Нібыта ў свой дом.*

*Тут радасці мала было,*
*Але не лілося і слёз.*
*Гарнуў я да сэрца цяпло*
*І песні бяроз.*

*Спявалі завеі не раз,*
*Ігралі на скрыпках вятры.*
*Вясна! Мною пройдзены час*
*З душы не сатры.*

*Не крыўджуся я на гады,*
*Не попел яны і не дым,*
*Свае ўсе займаюць рады*
*У сэрцы маім.*

*Не цесна ім будзе ў мяне.*
*Той лепшы, той горшы крыху.*
*Усё я — і радасць і гнеў —*
*Сабраў пад страху.*

*Я вернасць радзіме пранёс*
*Праз буры і ўсе перуны.*
*Паклон табе, вогненны лёс*
*І слодыч вясны.*

* * *

*Нічога не збылося быццам*
*На ўлонні вечаровых ніў:*
*Спыніўся лось каля крыніцы*
*І месяц рэчку пераплыў.*

*У лесе затрымаўся вечар*
*І нанач адпачыць прылёг.*
*Калі прыціх у голлі вецер,*
*Пугач узняў перапалох.*

*Яго быў крык такі жахлівы,*
*Нібыта паратунку крык,*
*Што нават месяц палахліва*
*За хмаркаю адразу знік.*

*А потым цішыня настала,*
*Зямлю засеяў сонны змрок.*
*Чуваць было, як зорка ўпала,*
*Згасіўшы ў росах aганёк.*

*Нічога не збылося нібы...*
*Пастукаў сонечны прамень*
*Мне раптам раніцай у шыбу,*
*І... нарадзіўся новы дзень.*

* * *

Мне яшчэ патрэбна даль,
Мне яшчэ патрэбны зоры,
Росаў чэрвеньскіх крышталь,
Гоман векавога бору.

Мне патрэбна рэчак плынь,
Срэбны месяц апаўночы,
Неба веснавога сінь
І маёй каханай вочы.

Я свой стог не давяршыў
Незабудкамі і мятай.
Я агонь сваёй душы
Не з усёй красой сасватаў.

Не ўсе словы я знайшоў,
Каб з іх можна было скласці
Песню пра маю любоў,
Пра нязнойдзенае шчасце.

Я не падганяю час,
Не забыў пра абавязкі.
Я ж не ўсе яшчэ прыпас
Для сваіх унукаў казкі.

Мне таму патрэбна даль,
Мне таму патрэбны зоры,
Росаў чэрвеньскіх крышталь
І вясёлы пошум бору.

* * *

*Мінулае мной не кіруе,*
*Няма ад яго мне пагроз.*
*Хоць трошкі, магчыма, шкадую,*
*Што мары свае перарос.*

*Былі яны поўныя сонца,*
*Нязнаных краін і дарог.*
*Канца не было ім і донца,*
*Таму іх не вельмі бярог.*

*Цішэлі, збываліся мары,*
*Ці трацілі вартасць сваю?*
*Гады ж не выносілі кары*
*За неберажлівасць маю.*

*Здавалася, іх не патрачу,*
*Не ўсе, як здабыткі, раздам.*
*Не меў я надзей на ўдачу*
*І зараз збянтэжыўся сам.*

*Мінулае мной не кіруе,*
*Яго я даўно перарос.*
*Я новыя мары гадую*
*І ім я прысягу прынёс.*

## СКАЗ ПРА ЛЕС

*Звініць ручай, удаль цячэ,*
*Каля яго лясок пасецца,—*
*Замілаванне для вачэй,*
*Уцеха для душы і сэрца.*

*У зелені і сонцы ён*
*Шапоча і пяе аб нечым.*
*Прывабны, казачны здавён*
*Ён для старых і для малечы.*

*Ён нараджае ў нас спакой*
*І дорыць радасці багата.*
*Мы згодны з прымаўкай такой,—*
*Для чалавека лес — паўхаты.*

*Ад сцюжы бараніў ён нас,*
*Дзяліўся з намі ўсім па-брацку.*
*У горкі і нядобры час*
*Быў цытадэллю ён салдацкай.*

*А колькі жыццяў ён збярог*
*У фашыстоўскую навалу!*
*І кожны лес, і кожны лог*
*Быў партызанскім запявалам.*

*Радзімы гордасць і краса*
*Усе і пушчы і дубровы.*
*Я ўсё шукаю аб лясах*
*Яшчэ не сказаныя словы.*

* * *

Я не хаваўся за развагай
І не шукаў перасцярогі,
Глытаючы з юнацкай прагай
Жыцця нязнаныя дарогі.

Ні аб шырокіх, ні аб вузкіх
Не меў ніякага ўяўлення.
І кожны дзень быў не нагрузкай —
Адкрыццем новым і здзіўленнем.

І гэтак, даючыся дзіву,
Красе людской, красе прыроды,
Прайшоў я па шляху руплiва
Шырокім чалавечым ходам.

А ні калдобін, ні выбоін
Не абышоў я на дарозе.
Ішоў, нібы праз поле боя
Салдат па клічу і трывозе.

І што ж! Не каюся, паверце,
Што гэтак у жыцці збылося.
Працуй і непакойся, сэрца,
На тое ж ты людзям далося.

Я не хаваўся за развагай
І не шукаў перасцярогі.
Яшчэ не знікла з сэрца прага
Шукаць далёкія дарогі.

* * *

*Маладосць была кароткай,*
*Непрыкметнай і нягеглай,*
*Прашумела, як паводка,*
*І кудысьці ўдаль пабегла.*

*Заблудзіла мая доля*
*Недзе на шнурочку чэзлым*
*Між старой сахой у полі*
*І між лемяшом жалезным.*

*Горкі час не мною створан,*
*Лаяць лёс няма патрэбы.*
*Мяне вывучыла гора*
*Паважаць кавалак хлеба.*

*Даражыць жыцця часінай,*
*Сонцу ўранку пакланяцца,*
*Прад радзімай быць павінным,*
*На сяброў абапірацца.*

*З дзён юнацкіх, з дзён далёкіх*
*Мазалю цану я знаю*
*І каля заводскіх вокан*
*Шапку з галавы здымаю.*

* * *

*Нічога я не забываю*
*І не хачу забыць.*
*Як сорак першы прыгадаю,*
*Душа агнём гарыць.*

*І на сябе бываю злосны,*
*Што самалётны шум*
*Старую выклікае млоснасць,*
*Яшчэ бамбіць душу.*

*Што ўсё яшчэ замнога*
*Баёў, атак у сне,*
*Не прыцішаецца трывога,*
*Прывіды аб вайне.*

*І тых карцін злавесна-хіжых,*
*Тых чорных дзён смугу*
*З душы сваёй навечна выжыць*
*Ніяк я не магу.*

*Адно шкада, што ценем засцяць*
*Дні гора і бяды*
*Здабытае ў змаганні шчасце,*
*Сучасныя гады.*

## ЗАСЛАЎСКІЯ ДОТЫ

*Пакуты травой зараслі.*
*Жывуць яны толькі ў вачах,*
*У дотах на роднай зямлі,*
*У словах старых і шляхах.*

*Хто зведаў ваенны цяжар,*
*Ля дотаў на Лысай гары*
*Абпальвае полымя твар*
*Яшчэ аж да гэтай пары.*

*Пакрытыя мохам-травой,*
*Здалёку яны не відны.*
*Над імі хваіны з журбой*
*Прыгадваюць грукат вайны.*

*Цяпер непатрэбны яны*
*Ні людзям, ні звонкім барам.*
*Пра дні крыважэрнай вайны*
*Бетон той нагадвае нам.*

*Мінулі часіны віхур,*
*І гільзы зжавала іржа.*
*Паблізу былых амбразур*
*Прабітыя каскі ляжаць.*

*У хіжым варожым кальцы,*
*Забыўшы пра харч і пра сон,*
*Насмерць тут стаялі байцы,*
*Але не здаліся ў палон.*



*Мы сёння ў святочныя дні*
*Згадалі пра мужнасць застаў.*
*З такой у нас сэрцы брані,*
*З якое Кастрычнік скаваў.*

* * *

*Пара надзей, пара здзяйсненняў.*
*Здавалася, мінула ты.*
*Даўно патухшыя праменні*
*Ужо не маюць пекнаты.*

*І не надзеі, а жаданні*
*У соннай цепляцца душы,*
*Як тыя ў змрочлівым тумане*
*Пад хісткім ветрам кіяшы.*

*Хаця не маю я ілюзій,*
*Не пець зімою салаўю,*
*Жаданні з вёснамі ў саюзе*
*Усцешылі душу маю.*

*І сэрца просіцца ў дарогу,*
*І ўсмешкай расцвітае зрок,*
*Нядаўнюю забыўшы змогу,*
*Прыспешваю ў надзеі крок.*

*Пару надзей і летуценняў*
*Ніяк акрэсліць не магу.*
*Яны цвітуць то ў дзень асенні,*
*То ў весні сохнуць на лужку.*

* * *

*Шумяць бярозы каля хаты.*
*Хляўчук паскрыпвае стары.*
*Паўночны вецер зухаваты*
*Раве і стогне на двары.*

*А ўжо як вырвецца з-пад плоту,*
*Бяжыць, нібыта на пажар,*
*Шалёную сагнаць ахвоту*
*У рыжы палявы абшар.*

*Тады то плача, то рагоча,*
*Свае накручвае віры.*
*Зямлю, здаецца, скасабочыць*
*І пераверне дагары.*

*На полі нарабіўшы глуму,*
*Узняўшы вэрхал да нябёс,*
*Ён з лютым гіканнем і шумам*
*Пясок на гарады панёс.*

*Такія ў нас вятры ў стагоддзе,*
*Калі цямнее раптам днём,*
*Каб вецер гэтак мог нашкодзіць,*
*Каб стрэхі і слупы — на злом.*

*Але залопала па вокнах,*
*І вецер сціх, як не бываў.*
*Аднекуль з захаду, здалёку,*
*Пад вечар ён дажджу нагнаў.*



*Бывалі ночы і такія дні,*
*Што перабыць іх не было надзеі.*
*Бо так душу абпальвалі агні,*
*Што нават думкі ў сэрцы халадзелі.*

*На ўцеху, дзён такіх пражыў няшмат,*
*Іх час да восені маёй згрувасціў,*
*Сабраў, як вецер лісце ў лістапад,*
*Каб хоць крыху маё азмрочыць шчасце.*

*Але агонь жыццёвы не патух,*
*А падыміў крыху, крыху пачадзіў.*
*Я перамог нашэсце злосных скрух,*
*І сонца зноў на покуце ва ўладзе.*

*Няхай пацешацца вятры крыху,*
*Вясна надыдзе ўслед за непагодай,*
*Пакліча зноў пад зорную страху*
*У новыя маршруты і паходы.*

*Калі ж ўваб'ецца ўсё-такі бяда,*
*Перабярэ і жылы ўсе і косці,*
*Ну што ж, пачухайся, ў тваіх гадах*
*Яно бывае. То ж не ў маладосці.*

*Як чалавека ні кідае лёс,*
*Што прыпадзе на долю — перабудзе.*
*Не ўсе, відаць, я мары перарос,*
*І шмат наперадзе звычайных будзе.*

## ЭПІТАФІЯ

*Надпіс на помніку Т. Хадкевічу*

*Ты сэрца нам сваё пакінуў*
*І радасць сонца і вясны.*
*Ты так любіў сваё Наддзвінне,*
*Што сам стаў песняю Дзвіны.*

ЗМЕСТ

Аким Петрович Астрейко
УРОЖАЙ ТЕПЛА
*Новые стихи*
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастацкія рэдактары Е. М. Малышава, В. П. Жыжэнка. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Е. У. Дзмітрыенка.
ІБ № 357
Здадзена ў набор 17.04.78. Падп. да друку 12.07.78. АТ 09222. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Ум. друк. арк. 4,68. Ул.-выд. арк. 3,59. Тыраж 8000 экз. Зак. 1157. Цана 55 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Астрэйка А.**
А 91 Ураджай цяпла: вершы.— Мн.: Маст. літ., 1978.—128 с., іл.

**Анатоль Астрэйка — наш старэйшы пісьменнік. У гэтую кнігу ўвайшлі яго новыя вершы.**

**А $\frac{70402-141}{М\ 302(05)-78}$ без аб'явы** **Бел 2**